© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



● ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# ТПФ "ИВАЦЕВИЧИ" В НОКАУТЕ. ПОБЕДИТЕЛЕЙ НЕТ

*(Окончание. Начало на 1-й стар.).*

— **Но каким образом удалось „победить" такую мощную фирму как ТПФ „Ивацевичи"?**

— Все началось в октябре прошлого года. 26 октября я должен был получить удостоверение кандидата в депутаты Верховного Совета Республики Беларусь. А 24 октября на фирму обрушился шквал проверок. Кто только нас ни проверял! И прокуратура, и санслужба, и ревизионно-контролирующие органы, и работники государственных налоговых инспекций по Брестской области и Ивацевичскому району. Именно последние и нанесли фирме сокрушительный удар: по результатам их проверки правильности исчисления, полноты и своевременности уплаты налогов и других платежей фирме было доначислено платежей и финансовых санкций на сумму 9,5 миллиарда рублей. После повторной проверки (по жалобе руководства фирмы) управлением налоговых расследований государственной налоговой инспекции по Брестской области эта сумма была уменьшена до 8.739.010.470 рублей. Банковские счета фирмы были закрыты, прекращено кредитование , работа предприятий и магазинов парализована. Последние вынуждено были закрыты на несколько дней, поэтому много продуктов было испорчено и выброшено. И предприятия, и магазины фирмы мы вынуждены были передать по договору о совместной деятельности производственно-коммерческому центру.

— **Но вы же не согласились с актом проверки...**

— Да. И подали иск в Брестский хозяйственный суд. Ответчиком, естественно, назвали государственную налоговую инспекцию по Брестской области. 30 апреля с. г. суд вынес решение, согласно которому все обвинения в адрес фирмы о сокрытии доходов и невыплаты налогов отпали. Акт проверки государственной налоговой инспекции по Брестской области и соответствующее ему распоряжение государственной налоговой инспекции по Ивацевичскому району признаны недействительными на сумму 4.116.504.027 рублей. За нами остались штрафы за нарушения порядка ведения кассовых операций и порядка осуществления расчетов, которые мы также намерены еще оспаривать, ибо не чувствуем вины за собой в этом плане. Приведу такой пример. В мае-июне прошлого года мы взяли в нашем магазине № 15 (по улице Шевченко) выручку на 2 миллиарда рублей, пробили по кассе и сдали в банк. За эту операцию нам насчитали 4 миллиарда штрафа. Но за что? Разве мы нанесли какой-либо ущерб государству?

— **Таким образом, Владимир Алексеевич, ваш иск Брестским хозсудом удовлетворен почти наполовину. Почему же вы считаете фирму разгромленной?**

— Нет, я так не сказал. Нас пытаются уничтожить, и уже на протяжении полугода наносят систематические сокрушительные удары. Райисполком отобрал у фирмы землю, поднял арендную плату, отказывает нам в выдаче лицензий на право торговли ликероводочными и табачными изделиями. До сих пор не решен вопрос о перерегистрации ТПФ „Ивацевичи" и производственно-коммерческого центра (ПКЦ), хотя все необходимые документы лежат в райисполкоме с конца декабря прошлого года.

— **Но на каком основании это делается?**

— На основании распоряжения Президента о запрете перерегистрации предприятий коммерческих структур. Получается, таким образом, что и ТПФ, и ПКЦ с 1 января 1996 года существуют якобы незаконно и могут в любую минуту быть закрытыми райисполкомом.

— **Почему же он так не поступает?**

— Да потому, что ждет очередного распоряжения или указа Президента. Очевидно, что административно-командная система в Беларуси возрождается. Команды ж легче отдавать, чем управлять экономикой на основе рыночных отношений. В каком они, эти отношения, состоянии, показывает хотя бы такой пример. Предприниматели, то есть такие фирмы, как „Ивацевичи", имеют право продавать мясные, молочные изделия, хлеб с наценкой в 10 процентов. Таким образом, когда мы реализуем колбасные изделия нашего колбасного цеха, то и наценку устанавливаем, нам определенную. А вот райпотребсоюз колбасные изделия реализует с наценкой в 30 процентов. Почему бы ему не процветать? Но процветания не наблюдается. Тогда местные власти изо всех сил стараются убрать фирму-конкурента.

— **И вы приостанавливаете деятельность своей фирмы?**

— Да. На месяц-два мы закрываем все магазины, проводим всеобъемлющую ревизию, выясняем свое окончательное финансовое положение и потом вновь возобновляем работу наиболее рентабельных. Только эти магазины уже будут принадлежать фирмам г.г. Березы и Бреста, соучредителями которых мы также являемся. Все налоги, естественно, эти фирмы будут выплачивать в бюджеты Березы и Бреста (кстати, проблем там с регистрацией и перерегистрацией их нет).

— **Наш районный бюджет, вновь возвращаемся к этой теме, уже безвозвратно лишается тех ежемесячных 500-600 миллионов рублей, которые выплачивала в виде налогов ТПФ „Ивацевичи"?**

— Да. Это "достижение" наших „победителей". Сюда можно добавить те средства, которые районный бюджет должен будет выплатить в виде пособий по безработице бывшим работникам фирмы. Я уже не вспоминаю о том, что своими действиями исполнительная власть нанесла ТПФ „Ивацевичи" миллиардные убытки.

— **А нельзя подать иск в тот же хозяйственный суд с требованием возмещения убытков, нанесенных неправомерными действиями тех же налоговых инспекций?**

— Теоретически можно. Но веры в то, что суд сможет решить этот вопрос, нет. Кто конкретно будет возмещать нанесенные нам убытки? Служебные высокие лица? Сомнительно. Они защищены пока у нас и круговой порукой, и телефонным правом. Вспомним недавнюю историю с коссовскими чернобыльскими квартирами. По моим подсчетам у государства украдено 2 миллиарда чернобыльских денег, по подсчетам службы контроля Президента — около одного миллиарда. И кто-нибудь наказан за это? Нет. Хотя бы виновники названы, деньги государству возвращены? Тоже нет. Дальше. Настаивать на иске, запастись терпением и добиваться возмещения убытков из госбюджета? Это значит — забрать деньги у пенсионеров, инвалидов, больных людей. Совесть не позволит. Я надеюсь возродить фирму только собственной работой. Начать с нуля, сначала, и двигаться вперед, надеясь на успех.

— **У вас есть какие-то новые планы, предложения?**

— Мы предполагаем переключиться на торговлю промышленными товарами и давать их населению в кредит. Надеюсь, что летом-осенью ситуация с деньгами у людей в сельских районах улучшится — что-то созреет на огородах, в лесу появятся ягоды, грибы, в садах — фрукты.

Хотя в общем-то экономическая ситуация в республике очень сложная. Тяжелая. Наглядно видно, что властные структуры все больше склоняются к административно-командной системе хозяйствования, боятся частной собственности. За прошлый год, например, в Республику Беларусь иностранные фирмы инвестировали только 2 миллиона долларов. Почему? Потому что они трезво оценивают нашу политическую и экономическую ситуацию и боятся вкладывать деньги в стране, в которой им в любой момент могут сказать: средства национализируем, делим на всех поровну. Наша фирма — тому доказательство. В прошлом году мы вложили несколько миллиардов рублей на расширение производства, строительство животноводческого комплекса на подсобном хозяйстве в Гичицах, на открытие магазинов, закупку холодильного, кассового, торгового оборудования и т. д. И буквально за несколько недель от нас все эти средства по сути отобрали. Помните, как представители власти района во время предвыборной кампании внушали избирателям : заберем у Кудинова 10 миллиардов рублей, пополним бюджет, будем своевременно выплачивать зарплату и пенсии. Кудинову нанесли огромные убытки. Но бюджет как был пустой, так и остался. Почему? Да потому, что никто о его пополнении настоящим образом не заботится. У нас деньги под ногами иногда валяются, а поднять их — никому не велено. Вот разобрали в райцентре баню и бывший Дом культуры. Может чтонибудь кому продали, хоть копейку в казну положили? Нет. О приватизации в районе также по сути забыто, пополнений в бюджет она не дает.

— **На последней сесии райсовета Вы вносили предложение о том, чтобы райисполком, местные Советы получали заработную плату только после того, как её получат медики, учителя...**

— Да, но голос мой, как говорится, услышан не был. Наши руководители не хотят сегодня жить так, как живут простые люди, иметь такие же проблемы с оплатой труда, какие имеют работники всех сфер хозяйствования и культуры. И в то же время при случае не упустят повода, чтобы побалакать о социальной справедливости, хапугах — коммерсантах...

— **Но что можно и нужно сегодня делать для того, чтобы преодолеть кризис? Ведь мы сегодня уже на краю экономической пропасти...**

— Как депутат Верховного Совета, обязанный своим званием смотреть выше собственных забот, считаю, что нам прежде всего нужна реформа оплаты труда. Необходимо увеличить заработную плату, пенсии, пособия в два-три раза. Цены при этом возрастут не более, чем на 30 процентов. Значит, покупательская способность людей увеличится, товары найдут свой сбыт, заработают предприятия. Они будут работать на внутренний рынок. На внешний — нам пока трудно пробиваться, наша продукция имеет низкую конкурентноспособность.

Что касается сельского хозяйства, то оно, по моему убеждению, должно кредитоваться, а не датироваться. Датироваться должны только отдельные виды продукции. А у нас существует такая практика: даем колхозам дотации, отдачи от них не имеем. Разве это хозяйствование?

Коренного изменения требует налоговая система. У нас существует 25 видов налогов. Да сделайте их 3-4, чтобы они исчислялись просто, выплачивались исправно. Сегодня те же колхозы их просто не выплачивают, потому что не имеют достаточных средств на содержание машин и механизмов, качественное проведение посевной кампании, выплату заработной платы колхозникам.

Дальше. Республика наша небольшая, народ тихий и терпеливый, а по количеству работников силовых структур на 1000 жителей занимает одно из первых мест в мире. Зачем это? С каким врагом собираемся бороться, кого утихомиривать? На содержание милиции, КГБ, армии тратятся огромные деньги. Вот где кроются финансовые резервы.

— **Ещё один вопрос, Владимир Алексеевич, ответ на который интересует, наверное, многих жителей района. Газета „Товарищ", а за ней и районная газета „Івацэвіцкі веснік" напечатали сообщение о том, как голосовали депутаты Верховного Совета Республики Беларусь за пункт 5 постановления Верховного Совета, в котором предлагалось признать Беловежские соглашения противоречащими воле народа и политически ошибочными. С возмущением эти газеты сообщают читателям, что депутаты от нашего района — Кудинов и Юнчик — проголосовали против денонсации Беловежских соглашений, а тем самым, якобы, выступили против воли народа.**

— Я всегда поражаюсь тому, как некоторые товарищи и издаваемые ими газеты берут на себя смелость говорить от имени народа. Когда и где народ уполномачивал их это делать? А вот Кудинова и Юнчика народ уполномочил голосовать за принимаемые Верховным Советом решения исходя из наших убеждений, совести, опыта и знаний. Именно так мы и поступили. Вспомним историю белорусского народа. Сколько пролито крови, слез и пота в борьбе за вековую мечту о свободе и независимости. И вот в Беловежской пуще тремя умными политиками — руководителями соседних государств — подписываются соглашения, которые являются объективным ходом истории, а не их сговором, и согласно которым Беларусь приобретает независимость. Только человек, не любящий свою страну и народ, может называть эти соглашения сговором, противоречащим воле народа, и голосовать за их денонсацию.

Сегодня Беловежские соглашения, вся эта возня вокруг воссоздания Советского Союза, используются исполнительной властью для прикрытия своей неспособности управлять экономикой, запустить в работу заводы, платить своевременно людям зарплату, остановить рост безработицы и инфляции. Людям внушается мысль, что все наши беды от того, что мы отделились от России. А вот соединившись с Россией и жить будем как по маслу. Так ли это? Ведь даже до подписания документов о создании Содружества суверенных республик, чем так гордится наш Президент, интеграционные процессы в Беларуси и России шли. Кто хотел — торговал в России или закупал там товары, сырьё. Такая возможность есть и сегодня. Но это не значит, что Россия решает и будет решать экономические проблемы Беларуси, о чем откровенно говорят российские политики и средства массовой информации. Тем не менее, наша исполнительная власть ориентирует народ именно на помощь России, зная, что наш народ — терпеливый и может долго ждать улучшения жизни. Я же считаю, что ждать не нужно. В независимой Беларуси, налаживая экономические связи как с востоком, так и с западом,мы в состоянии сами навести порядок, победить экономический кризис и двигаться вперед. И независимость — наше приобретение, которое надо беречь и сохранять. Вспомним Чечню. Там народ проливает кровь, воюет с оружием в руках, добиваясь независимости. А нам, белорусам, чья республика находится в центре цивилизованной Европы, наша же исполнительная власть предлагает избавиться от независимости. Абсурд. И если мы так поступим, то наши дети, внуки нам этого не простят.

— **Последний вопрос касается, Владимир Алексеевич, нашей газеты. Фирма „Ивацевичи" приостанавливает свою деятельность, закрывает предприятия и магазины. Будет ли выходить газета? Слухи о ее закрытии муссируются как в солидных учреждениях района, так и среди населения...**

— Газета создавалась для того, чтобы городские и сельские жители имели объективную информацию о событиях и жизни района, могли на ее страницах свободно высказывать свои мысли независимо от своих политических убеждений, вероисповедания. Люди должны знать правду обо всем, что происходит в республике, должны быть защищены от дезинформации, оболванивания со стороны как политиканов, так и некомпетентных, невежественных бездарных людей. Поэтому „Газета Уладзіміра Кудзінава" будет выходить. Финансировать ее будем и мы, и фирмы, с которыми у нас заключен договор о совместной деятельности.

Л. ЦЕЛУЙКО.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020





● СТОП – КАДР



*Вось так пачынаецца сяброўства.*

*Фотаэцюд П. ЛУЧЫЦА.*

● І ЖАРТАМ, І ЎСУР'ЁЗ

# ХАЧУ НА ПРЫРОДУ

Інфляцыя, дэвальвацыя, інтэграцыя, прэзентацыя... Рэформы, платформы, пікеты, Саветы... Мітынгі, міліцыя, амбіцыі, кааліцыі... Падпісанні, выпрабаванні, абяцанні... Зніжэнне, пагаршэнне, пасяджэнне, пасяджэнне... Зарплата, квартплата, грошы, грошы, грошы...

І так вось – кожны дзень. З ранку і да вечара. У восем раніцы па тэлевізары паказваюць вайну ў Чачні, у дзевяць вечара – сутычку АМОНаўцаў з дэманстрантамі ў Мінску. Ноччу вайна з думкамі „Што далей будзе?" і з бяссонніцай ад гэтых думак. А днём – бадзёрыя і рашучыя галасы двух прэзідэнтаў аднаго супольніцтва.

На-да-ку-чы-ла! Смяротна!

Хачу туды, дзе замест дыктараў беларускага тэлебачання будуць чырыкаць птушкі. Дзе замест „Сакрэта трапіканкі" – сакрэт удалай рыбалкі. Дзе страляюць толькі галінкі ў вогнішчы. Дзе жарка робіцца толькі ад полымя вогнішча, а не ад рэпартажаў са сталіцы ў дні вядомых падзей. Дзе халодзіць раніцні золак, а не бяжыць мароз па скуры ад кліча камуністаў: „Мы будем бороться до последней капли крови!"

Назад – у пячору, у шалаш! Што зладзю, тое і з'ем. Што вырасце, тое і згрызу! К чорту тэлевізар, прыёмнік і сур'ёзныя газеты. Нічога не жадаю ведаць!

Але ж не ўдасца. Загалосіць жонка, зашэпчуцца знаёмыя, пачнуць круціць пальцам ля скроні сябры. Урэшце прыедуць на „хуткай" і завязуць у месца таксама ціхае. Для памешаных. Ды і сам не вытрымаю. Іржа цывілізацыі кранулася самых глыбінь душы і цела...

Але ж два дні пратрываю!

К чорту цэны і палітыку! Усе думкі – пра дровы, вогнішча, рыбу. Закіпіць у кацялку юшка, вып'ем па колькі кропель гарэлкі, пачнем дзівіцца на зоркі і размаўляць аб вечнасці... Потым аб жыцці, ці вечнае яно. Потым аб каханні – аснове жыцця. Далей аб жанчыне, якая дорыць каханне. Пяройдзем да становішча жанчыны ў грамадстве, ну і да эканомікі так дойдзем. Палітыкай завершым, бо ў нас пакуль эканоміка ёй кіруецца. Цьфу, чорт, збіраліся ж не псаваць сабе настрой! Зноў загаворым пра зоркі...

І ўсё ж я вярнуся адпачнуўшым. Са светлай галавой і добрым настроем. Я ведаю, бо такое ўжо паспытаў. І таму ўсім раю – на волю! На адзін дзень і адну ноч. Без размоў і думак аб сельскай гаспадарцы, аб прамысловасці, аб партыях і руху. Суткі без палітыкі!

Вы самі ўпэўніцеся – якая гэта асалода – забыць хоць на які час, што ты жывеш у Беларусі...

Як ні горка і як ні сорамна гэта асэнсоўваць...

**В. ГАПЕЕЎ.**

## Сердечно поздравляем

*Дорогого Николая Петровича ШТЫБИНА из д. Руда горячо и сердечно поздравляем с днём рождения.*

*С днём рожденья поздравляем,*
*И сердечный шлем привет.*
*По традиции желаем*
*Счастья в жизни, долгих лет.*
*Жить всегда без огорченья,*
*Без обид и без утрат,*
*А хорошее здоровье*
*Будет лучше всех наград.*

*Сестра Тоня, шурин Ваня, племянники Алла и Саша.*

***

*Дорогую, любимую нашу Светлану Станиславовну КОЗЛОВСКУЮ из Сенькович горячо и сердечно поздравляем с днём рождения. Желаем здоровья, счастья.*

*Желаем быть всегда красивой,*
*А также доброй и простой,*
*Всегда приветливой и милой,*
*Всегда любимой, дорогой.*
*Пусть будет жизнь твоя прекрасной,*
*И в ней погода только ясной.*
*Пусть льются нежных слов потоки,*
*Пусть радость в доме бьёт ключом.*

*Мама, папа, сестра Жанна, брат Витя, сын Димка.*

***

*Нядзейнага, чулага свайго сябра Мікалая Пятровіча ЛАБЫРЫЧА з г. Івацэвічы ад усёй душы віншуем з 40-годдзем.*

*Жадаем здароўя, удачы, цяпла,*
*Каб беды-нягоды згарэлі датла,*
*Каб жыць – не тужыць да 100 год давялося,*
*Хай збудзецца ўсё, што яшчэ не збылося.*

*СЯБРЫ.*

***

*Уважаемую Валентину Владимировну ЕРЕМЧУК из Ивацевич горячо и сердечно поздравляем с 50-летием.*

*Полсотни лет – хороший срок.*
*И нет нужды печалиться.*
*Пускай ещё полста пройдет,*
*Не надо только стариться.*
*И в этот светлый, славный день*
*Вас мы поздравляем,*
*Здоровья, счастья и добра*
*От всей души желаем.*

*Коллективы станции химизации и станции защиты растений.*

# Дзеці заўсёды дзеці

## І ІМ, ЯК НІКОМУ З НАС, УЛАСЦІВЫ ДУХ СПАБОРНІЦТВА, ВЕСЯЛОСЦІ, ЖАДАННЯ ЗМАГАЦЦА І ПЕРАМАГАЦЬ

І таму вельмі патрэбны ім розныя спаборніцтвы, гульні, спартландыі. Гэтую выснову няцяжка было зрабіць кожнаму даросламу, хто прысутнічаў на заключным раённым конкурсе юных знатакоў пажарнай справы.

Распачаўся ён яшчэ ў мінулым годзе. Непасрэдным яго арганізатарам выступіў цэнтр навучання правілам пажарнай бяспекі атрада ваенізаванай пажарнай службы г. Івацэвічы. Аддадзім належнае „застрэльшчыкам" – Алегу Уладзіміравічу Худзінскаму і Валерыю Сяргеевічу Молашу. Толькі ім, відаць, вядома, як гэта цяжка арганізаваць такое мерапрыемства, ды яшчэ з прызамі! І таму наўрад ці трэба сумнявацца ў словах арганізатараў, калі яны казалі, што без спонсараў конкурс правесці было б немагчыма. Спонсараў – тых людзей, між іншым, ненавісных сяму-таму „прыватнікаў" – арганізатары знайшлі. Адзначым тут жа, у дужках, што сярод тых, хто даваў грошы на падарункі дзецям, дзяржаўных прадпрыемстваў не было.

Заключны конкурс атрымаўся мо і задужа вялікім па часе, затое цікавым, шумным і вясёлым. „Хварэлі" балельшчыкі, нерваваліся настаўнікі і дырэктары школ каманд-удзельніц. І толькі журы спрабавала стрымліваць эмоцыі і скрупулёзна ацэньвала і лічыла...

Пяць каманд – з Даманаўскай, Любішчыцкай, Касаўскай, Целяханскай і школы № 3 г. Івацэвічы – змагаліся за права назвацца лепшай. І было па-добраму зайздросна ад непасрэднасці, шчырасці дзяцей на сцэне Івацэвіцкага ГДК. Мы, дарослыя, мо ўжо і забыліся, што можна вось так выдумляць, імправізаваць і змагацца.

Ды, на жаль, пераможца, як вядома бывае толькі адзін. З адрывам усяго ў паўтара бала перамагла каманда „Агеньчык" СШ № 3 г. Івацэвічы. Касаўскі „Вугольчык" – на другім месцы. Трэцяе месца заняла каманда „Вогнетушыцель" з Любішчыцкай СШ. А яшчэ вызначыла журы лепшых капітанаў каманд, якія вялі за сабой сяброў па сцежцы спаборніцтва. Гэта Ілья Папека – капітан „Агеньчыка" і Оля Бурыкіна – капітан каманды Даманаўскай СШ.

Не змагло журы пакінуць па-за ўвагай і самага артыстычнага, знаходлівага ўдзельніка спаборніцтваў. Аднадушна быў названы Жэня Белякоў з каманды Касаўскай СШ.

А потым былі прызы і падарункі. І суцяшальныя словы – для каманд, што не трапілі ў лік прызёраў. І яшчэ, мабыць, першае ў жыцці інтэрв'ю каманды-пераможцы абласному тэлебачанню...

Конкурс завершаны. І шкада нечага. На жаль, у іншых раёнах вобласці такіх конкурсаў не праводзіцца. Пераможцу – „Агеньчыку" – спаборнічаць больш няма з кім... Але конкурс быў, а значыць, уражанні ад яго надоўга застануцца ў дзіцячых сэрцах. І мо чаму навучаць.

**В. ВОСАВЕЦ.**

## Служба знакомств

*Вдова (44 года, не худая и не полная, рост 164, образование высшее, есть взрослые дети) хотела бы познакомиться с серьёзным и порядочным мужчиной для создания семьи. Возраст – в пределах разумного.*

*Писать на адрес редакции, обязательно на конверте поставить пометку „Служба знакомств", для Маши".*

## БЯСПЛАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

● *Прадаецца 2-пакаёвы катэдж з усімі выгодамі, з агародам 8 сотак у вёсцы Яглевічы па вуліцы Новай, дом 5. Тэлефанаваць на нумар 45-3-07 пасля 18 гадзін.*

● *Продаю крупную картошку по цене 1500 рублей за килограмм. Звонить по телефону 52-5-42 после 18.00 (д. Кушнеры).*

● *Продаётся дом в д. Квасевичи с хозяйственными постройками. Есть приусадебный участок – 31 сотка. Цена договорная. Обращаться: д. Заполье, ул. 8 Марта, 112.*

● *Продаётся трёхкомнатная квартира в Ивацевичах. Или обменяю её на равноценную квартиру или дом в Борисове. Телефон 2-45-95. Звоните, пожалуйста, после 20.00.*

● *Продаю мотоцикл „ИЖ" в хорошем состоянии. Телефон 2-22-26.*

● *Срочно куплю одну-или двухкомнатную квартиру в Ивацевичах. Первый и пятый этаж не предлагать. Звонить по телефонах 35-2-84, 35-2-45 с 8 до 17 часов.*

● *Продаем мелкую картошку. Телефон 2-24-87. Звоните, пожалуйста, после 19.00.*

● *Предлагаю бесплатно щенков хорошей породы (смесь болонки с пуделем). Звонить по телефону 2-15-73 в Ивацевичах.*

● *Продаётся новый, японский пишущий видеоплейер „Sanuo", Цена 200 долларов. Тел. 2-23-84.*

● *Продаётся автомобиль „Фольксфаген-Гольф-1" (дизель) в хорошем состоянии. Обращаться по телефону в Гощево 46-2-00 в любое время, желательно с 19 до 22 часов. Цена договорная.*

● *Продаю детскую кроватку. Телефон 2-33-55 (после 19.00).*

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 20 мая ў 14.00.

ЗАСНАВАЛЬНІК: гандлёва-прамысловая фірма „Івацэвічы"
Рэгістрацыйны нумар 1147.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Свярдлова, 5, рэдакцыя „Газеты Уладзіміра Кудзінава".
Тэлефон 2-12-09.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

Індэкс 63959.
Тыраж 2.800 экз. Заказ № 1086.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020